ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 27 (126) 21 - 27 ліпеня 1995 г. Кошт 600 рублёў

А.ЛУКАШЭНКА: «Я БЫЎ САВЕЦКІМ ЧАЛАВЕКАМ...» - ст. 2.

ЯК ДЗЯРЖАВА «ПАДТРЫМАЛА» ТАКСІСТАЎ - ст. 3.

БЕЛАРУСЫ АЎСТРАЛІІ ЗАКЛІКАЮЦЬ... - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква.

## СЬВЯТА ЗЬЯДНАЛА ЛЮДЗЕЙ

**У кожнага народу ёсьць падзеі, якія сталі паваротнымі момантамі ў гісторыі яго краіны. А ў кожнай краіне ёсьць месцы, існаваньне якіх сьведчыць аб велічнасьці народу. Калі рускім нагадаць пра Барадзіно, яны адразу ўспомняць, што там атрымалі перамогу іх продкі, адстаяўшы незалежнасьць дзяржавы. Такое ж значэньне для палякаў і летувісаў мае Грунвальд. Беларусы, дакладней, значная іх частка, дагэтуль ня ведаюць, што адбылося там у 1410 годзе, быццам няма ў іх гістарычнай памяці. Таму ня дзіўна, што Менскі гарвыканкам ня даў згоду на сьвяткаваньне 585-х угодкаў перамогі саюзнага беларуска-польска-літоўскага войска пад Грунвальдам над тэўтонскімі рыцарамі. Дзякуй Богу, Гарадзенскі гарвыканкам паступіў інакш, дазволіўшы правесьці ўрачыстасьць.**

І сьвята атрымалася. Пачалося яно з набажэнства ў Каложскай царкве і імшы ў Бернардынскім касьцёле. Затым у тэатры лялек адбылося ўрачыстае паседжаньне. Кандыдат гістарычных навук А.Краўцэвіч, кіраўнік Фонду культуры Летувы, старшыня "Саюдзіса" Р.Батура, кандыдат медыцынскіх навук А.Майсяёнак, намесьнік старшыні Саюзу палякаў на Беларусі Т.Малевіч, старшыня Рускага таварыства Ю.Сіманаў нагадалі пра падзеі 585-гадовай даўніны, пра тое, як продкі беларусаў, летувісаў і палякаў на працягу некалькіх стагоддзяў супрацьстаялі агрэсіі з захаду, набываючы досьвед, каб спыніць новую навалу, але ўжо з усходу.



Прысутныя хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць тых, хто паклаў свае галовы шэсьць стагоддзяў таму за тое, каб на зямлю Беларусі да 1914 года не ступіла нага тэўтонца.

Пасьля ўдзельнікі сьвята пад дзяржаўнымі сьцягамі Летувы і Польшчы, нацыянальнымі сьцягамі Беларусі прайшлі калонай праз цэнтр горада. Асабліва сьвяточны настрой быў у летувіскіх артыстаў. Падчас шэсьця яны ня толькі сьпявалі, але і танцавалі.

Ля Новага замка адбылося адкрыцьцё помніка Вітаўту Вялікаму. Скульптура два гады таму была падорана Беларускаму фонду культуры Фондам культуры Летувы, і зараз асьвечана настаяцелем Каложскай царквы айцом Анатолем і ксяндзом віленскага касьцёла Добрай надзеі Ёнасам. Старшыня Гарадзенскага вабласнога аддзяленьня Беларускага фонду культуры С.Габрусевіч адзначыў, што з адкрыцьцём помніка былі вялікія цяжкасьці, шмат разоў пераносіліся тэрміны, нават планавалася, каб у гэтым прынялі ўдзел беларускі і летувіскі прэзідэнты.

Р.Батура наведаміў, што летувіскі народ шмат паставіў помнікаў князю Вітаўту, і падарунак Фонду культуры, на яго думку, павінен нагадаць аб дружбе народаў і яе цане для незалежных Летувы і Беларусі. А Ю.Сіманаў выказаў упэўненасьць, што помнік стаў навякі і будзе сімвалізаваць дружбу народаў.



На адкрыцьці помніка выступілі таксама першы сакратар Пасольства Летувіскай Рэспублікі на Беларусі Г.Шюліс, Генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Беларусі М.Машкевіч, старшыня Гарадзенскай Рады БНФ К.Жынь.

Апагеям сьвята стаў канцэрт ля Новага замку. Выступленьне фальклёрных ансамбляў з Вільні "Апініс" ("Хмень") і "Каданіс" ("Ядловец"), этнаграфічнага ансамбля "Пелеса" з Воранаўскага раёна, татарскага нацыянальнага ансамбля "Кубелягім" ("Бабачка"), польскага хору "Глос з-над Нёмна", вядомага гарадзенскага барда В.Шалкевіча нагадала, што толькі разам народы здольны пераадолець цяжкасьці.

А.ДУК

Фатаграфаваў Я.ВАНЮКЕВІЧ

### ПАТРЫЯРХ ЕДЗЕ НА ГАРАДЗЕНШЧЫНУ

**23-25 ліпеня Гарадзеншчыну наведае Патрыярх усея Русі Алексій II. У першы дзень ён пабывае на Іўеўшчыне, дзе сустрэнецца з прыхаджанамі Сьвята-Пакроўскага прыходу. Потым прыбудзе ў Горадню, дзе наведае Сьвята-Багародзіцкі жаночы манастыр, у якім адбудзецца малебен.**

На наступны дзень Уладыка ўскладзе вянок на вайсковых могілках, прыме ўдзел у літургіі ў Свята-Пакроўскім саборы, асьвеціць хрысьціянскі храм у гонар Сьвятой Вольгі, а таксама сустрэнецца са старшынёй Гарадзенскага аблвыканкаму А.Дубко і з грамадзкасьцю ў драмтэатры.

25 ліпеня Патрыярх усея Русі Алексій II наведае Каложскую царкву і ад'едзе на Берасьцейшчыну.

А.ДУК

### ДЗЕНЬ 27 ЛІПЕНЯ ЯШЧЭ НЕ ЗАБАРОНЕНЫ

Напярэдадні чарговай гадавіны дня незалежнасьці Беларуская Нацыяналістычная Арганізацыя "Правы Рэванш" прыняла заяву, у якой, у прыватнасьці, гаворыцца: "27 ліпеня 1991 году была абвешчана незалежнасьць Рэспублікі Беларусь. Патрыёты Бацькаўшчыны ўспрынялі гэтую падзею як дар нябёсаў, як ласку Бога нашага адзінага. Але не зразумелі значнасьці і персьпектыўнасьці гэтага акту фарысеі і слабыя духам, маралізатары ад палітыкі, маладыя і старыя "згоднікі". У выніку мы маем сёньня беззаконны ўладаў, гвалт над беларускім нацыянальным жыцьцём, над нашым беларускім духам. Дзень 27 ліпеня яшчэ не забаронены. Няхай жа ён стане днём адзіных дзеяньняў права-патрыятычных беларускіх сілаў. У гэты дзень "Правы Рэванш" у саюзе з іншымі арганізацыямі праводзіць шэсьце з пачаткам на прасьпекце імя Ф.Скарыны ад пл.Незалежнасьці да пл.Я.Коласа".

С.ТУМАРНІК

### БЯСКОНЦАЕ «ОСВОБОЖДЕНИЕ»

**Па неафіцыйных зьвестках гарадзенскія ўлады сьпярша мелі намер узяць удзел у сьвяткаваньні Грунвальдзкай бітвы.**

Меркавалася нават падтрымка духавога аркестра, планавалася разгарнуць гандаль харчовымі таварамі. Але пасьля па "сьпіралі" паступіла распараджэньне займацца "освобождением" (16 ліпеня - дзень вызваленьня горада ад фашыстаў), а не ўсялякімі "националистическими акциями". Амаль кожны тыдзень сьвяткуецца *Вялікая Піррамога*, што ўсё болей нагадвае баляваньне на касьцях. Вось ужо сапраўды, няма нічога цяжэйшага, чым вызваляцца ад "вызваляльнікаў". А адзначэньне ўгодкаў Грунвальду ўдалося. Нават без дзяржаўных піражкоў. Дзякуй уладам і за тое, што не перашкаджалі.

Марцін КАЛАМУТНЫ

## «КАРАЛЕЎСКІЯ» АПЕТЫТЫ КАНТРОЛЬНАЙ СЛУЖБЫ

**Камісія па навуцы, народнай адукацыі, культуры і выхаваньні Гарадзенскага аблсавету згадзілася перадаць Кантрольнай службе прэзідэнцкай адміністрацыі ў вобласьці 2-х павярховую каменіцу на тэрыторыі Новага каралеўскага замку. Пасьля спрэчак члены камісіі ўсё ж здаліся.**

У замку некалі мясьціўся абкам КПБ. А паводле вядомай пастановы Саўміна ўся былая партмаёмасьць перадаецца ўстановам культуры, аховы здароўя і дзіцячым. У замку цяпер музей і абласная бібліятэка. А гэты будынак хацелі выкарыстаць пад аддзел рэдкай кнігі. Аднак кіраўнік кантрольнай службы сп.Гараеў ведаў як націснуць на членаў камісіі. Каменіца перадаецца яму ў арэнду на 5 гадоў. Цяпер пры жаданьні можна будзе нават зрабіць кабінет у пакоі, дзе некалі начаваў Пётр Машэраў. Рэч у тым, што ў гэтым доме быў некалі абкамаўскі гатэлік, і там нават захавалася ўрадавая сувязь. Дагэтуль кантрольная служба мясьцілася ў былым палацы Каралеўскага віцэ-адміністратара, але там ёй стала зацесна.

Адзінае, што будынак гэты негістарычны, пабудаваны напачатку 50-х гадоў. Да апошняга часу ў ім мясьціўся Прыёрбанк.

В.ВАСІЛЕВІЧ

### НА КАРЫСЬЦЬ ПАЖАРНАЙ БЯСЬПЕКІ

**Гарадзенскія пажарныя зьвярнуліся з прапановай да мясцовых уладаў не будаваць у Горадні і іншых гарадах вобласьці будынкі вышэй дзесяці паверхаў.**

Прычына самая трывіяльная - пажарныя ня маюць адпаведнага абсталяваньня, каб тушыць пажары ў высотных дамах.

На сёньня ў вобласьці пабудваў павышанай павярховасьці 39, 37 з іх знаходзіцца ў вабласным цэнтры.

### БАНК ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў ФІЛІЯЛ

**Аднайменны камерцыйны акцыянерны банк міжгаліновага будаўнічага канцэрна "Маналіт" у Горадні перастаў існаваць.**

На агульным сходзе акцыянераў вырашана спыніць фінансава-крэдытную дзейнасьць банка і перадаць яго актывы аднаму з камерцыйных банкаў Горадні.

Г.ДАМІНІКАНСКІ



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

**Мінуў год з часу перамогі на прэзідэнцкіх выбарах А.Лукашэнкі. Падводзячы вынікі першага года свайго праўленьня, прэзідэнт Беларусі ў гутарцы з карэспандэнтам Белінфарма і Інтэрфакса сказаў: "Лічу сябе дзяржаўным чалавекам".**

**Прапаноўваем паважаным чытачам вытрымкі з інтэрв'ю Аляксандра Лукашэнкі, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Адаму Міхніку - рэдактару "Газеты выборчай".**



Інтэрв'ю ў прэзідэнта Беларусі я ўзяў 12 красавіка перад полуднем... Сёньня для дэмакратычнай беларускай інтэлігенцыі Лукашэнка ўяўляе пагрозу. Баяцца яго папулізму і блізкай сувязі з Масквой. Баяцца яго агульнаславянскіх лозунгаў і супраціву парламантарызму. Шмат хто з блізкіх супрацоўнікаў Лукашэнкі, якія былі вядомыя сваімі дэмакратычнымі і рэфарматарскімі поглядамі, у апошні час пакінулі свае пасады. Прэзідэнт абвінавачваецца за свае антыдэмакратычныя і яўна прамаскоўскія погляды. Усе, аднак, прызнаюць, што значная частка беларускай грамадзкасьці падтрымлівае Лукашэнку. Польскага суразмоўцу погляды Лукашэнкі нярэдка шакіруюць. Таму я лічу за лепшае слухаць, што мяркуе аб сьвеце кіраўнік суседняй дзяржавы, чым удавацца з ім у палеміку. Хоць язык у мяне і сьвярбеў...

## Я БЫЎ САВЕЦКІМ ЧАЛАВЕКАМ

**Прэзідэнт:** ... Ці пан ведае, якія намеры маюць нацыяналісты ў Гарадзенскай вобласьці? Ніякіх палякаў, ніякіх польскіх школ - толькі беларускія. Прыязджаю туды, а палякі мне і кажуць: "Аляксандр Рыгоравіч, чаму Вы ня хочаце дапамагчы палякам?" Адказваю: я вас падтрымліваю. Зьяўляецеся каталікамі, хочаце будаваць касьцёлы. Ужо столькі збудавалі, што праваслаўныя пачынаюць біць трывогу: каталіцызм наступае і г.д. А я зусім нядаўна заявіў: праваслаўныя ня маюць права абмяжоўваць каталіцкай веры, каталікі - праваслаўнай. Гэтае правіла імкнуся захаваць пры будаўніцтве сьвятыняў і ў справе мовы.

Чаму паляк ня можа вучыць дзяцей на той мове, на якой жадае: на ангельскай, на польскай, на расейскай? Ня ўсе павінны вучыцца па-беларуску...

**А.М.: Але Вы маеце намер вярнуць савецкую сімволіку.**

**Прэзідэнт:** У нацыянальнай беларускай дзяржаве толькі некалькі месяцаў абавязвала "Пагоня", бел-чырвога-белы сьцяг. А гэтая сімволіка пратрымалася 70 гадоў.

**А.М.: Але гэта не была незалежная Беларусь, толькі адна з рэспублік таталітарнага СССР.**

**Прэзідэнт:** Яшчэ невядома, калі мы былі больш сувярэннымі і незалежнымі: тады ці цяпер...

**А.М.: У Маскве ня раз даводзілася чуць, што няма такой нацыянальнасьці, як беларусы. Чым адрозьніваецца расеец, які жыве ў беларускай дзяржаве, ад расейскамоўнага беларуса?**

**Прэзідэнт:** Ёсьць беларуская нацыянальнасьць, карані нашага народа сягаюць вельмі глыбока. Але ў апошнія часы, калі нас кансалідавалі, асабліва з расейскім народам, што цяпер цяжка вызначыць, хто зьяўляецца расейцам, а хто рускамоўным беларусам. Ментальнасьць падобная, цяжка акрэсьліць граніцы. У маёй адміністрацыі ёсьць шмат людзей расейскай нацыянальнасьці - многія з іх адданыя ідэі незалежнасьці дзяржаўнай больш, чым беларусы.

**А.М.: А якая была Ваша нацыянальнасьць, калі Вы былі дырэктарам: расейская, беларуская, ці савецкая?**

**Прэзідэнт:** Так, я быў савецкім чалавекам. Па сутнасьці зьяўляюся інтэрнацыяналістам, вельмі люблю іншыя народы, паважаю іншыя народы. Не магу пагадзіцца, калі чалавека паніжаюць на падставе нацыянальнасьці. Але не пераношу, калі нейкія народы, ці нацыянальнасьці маюць нерэальныя прэтэнзіі. Люблю спакой у гэтай галіне, так як нацыянальныя праблемы, калі іх разьдзьмухваць, вядуць сапраўды да грамадзянскай вайны.

**А.М.: Як разумець сфармуляваньне ў Вашай дэкларацыі: "Трэба выкараніць на Беларусі ўсе нацыяналізмы"? Ці таксама расейскі нацыяналізм?**

**Прэзідэнт:** Даўней можа крыху недаацэньвалі нашых нацыянальных беларускіх каранёў, надта разьдзьмухвалі ўсё тое, што савецкае. А цяпер назіраем адваротнае! Назіраецца ня толькі перабольшваньне нашых каранёў, але і проста фальсіфікацыя. Беларусам прыпісваецца тое, чаго ўвогуле не было.

**А.М.: Напрыклад?**

**Прэзідэнт:** Што Беларусь - гэта пуп сьвету. Што Польшча, ці Літва - гэта толькі дадаткі да нашай дзяржавы. Што Смаленск і Пскоў - гэта наша зямля. Віленшчына, Беласточчына - усё наша! Гэта ненармальна, супярэчыць здароваму сэнсу.

**А.М.: Маю двух любімых беларускіх пісьменьнікаў. Адзін, Сакрат Яновіч, жыве ў Польшчы. Другі - у Менску, завуць яго Васіль Быкаў. Калі чытаю іх кніжкі, адчуваю, што баюся, быццам беларускі народ зьнікне, адбудзецца яго канчатковая асіміляцыя з Расеяй. Ці Вы гэтага не баіцеся?**

**Прэзідэнт:** Мне здаецца, што няма падстаў для трывогі. Васіль Быкаў зьяўляецца таксама і маім любімым пісьменьнікам, але не падзяляю яго палітычных поглядаў. Тым больш, што апошнім часам ён заяўляе зусім фантастычныя рэчы. Ці чыталі Вы яго апошняе выступленьне? Гэта насычаныя нянавісьцю палітычныя дэкларацыі. Нядаўна далучыўся да Беларускага Народнага Фронту, да Пазьняка, і яго сёньняшняя ідэалогія трымае кірунак нацыянал-фашызму. Што здарылася з гэтым таленавітым пісьменьнікам? А можа маглі б разам супрацоўнічаць, каб наша нацыянальная сьвядомасьць не загубілася.

Тое, што народнае, ніколі не загіне...Толькі недалёкія палітыкі могуць зьнішчыць тое, што народнае, уласнае, свае карані. Але ўзвышацца над іншымі культурамі, пры тым над польскай культурай - гэта таксама абсурд.

**А.М.: Ці не баіцеся Вы экспаньсіі польскага каталіцкага касьцёла на Беларусі?**

**Прэзідэнт:** Не дапушчу да экспаньсіі аніякага веравызнаньня. Ад гэтага залежыць стабільнасьць нашай дзяржавы. Маем 15 адсоткаў каталікоў і 80 адсоткаў праваслаўных. Вось такая раўнавага, якую ўлады павінны падтрымліваць. Чаго ж мне баяцца? Не дапускаю, каб палякі, грамадзяне нашай рэспублікі, цераз рэлігію хацелі выклікаць дэстабілізацыю на Беларусі. Яны нарадзіліся тут, і тут памруць. Гэта іх зямля...

**А.М.: Апошняе пытаньне. Якая на Ваш погляд павінна быць Польшча, Беларусь і Расея 1 студзеня 2000 года?**

**Прэзідэнт:** Без танкаў, без узбраеньняў, без граніц...

**А.М.: Гэта немагчыма. Папрашу зрабіць больш рэалістычны прагноз.**

**Прэзідэнт:** Хачу, каб паміж намі былі добрыя адносіны. Каб было як мага менш сітуацый, калі мы не разумеемся, меней такіх пытаньняў, якія мне задаеце. А калі ёсьць праблемы, то лепш прыехаць і так чыста па-людзку, бяз злосьці, іх высьветліць. Ня так, як асобныя польскія журналісты. Падчас выбарчай кампаніі я іх прымаў, аб усім расказаў. А яны потым спаткаліся з нашымі журналістамі і, ведаеце, што казалі? Што Лукашэнка гэта нейкі вар'ят, ненармальны прэзідэнт...

"Gazeta Wyborcza" N 101
19 красавіка - 1 траўня 1995 г.
ПЕРАКЛАЎ В. ІВАНОЎСКІ.

## ДЗЬВЕ ГІПОТЭЗЫ НА ДЗЬВЕ ВЫБАРЧЫЯ ЗАГАДКІ

**Прайшоўшыя выбары паставілі два пытаньні: чым растлумачыць ў цэлым нізкую актыўнасьць выбаршчыкаў (у тых акругах, дзе не была дапушчана фальсіфікацыя - 25-45%) і чым растлумачыць, што на гэтым пасіўным фоне адносна высокую актыўнасьць праявілі людзі пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту (пенсіянераў сярод выбаршчыкаў было каля 25%, а сярод прыйшоўшых галасаваць іх аказалася больш 50%)?**

Сутнасьць любога грамадзкага феномену трэба шукаць у першую чаргу ў сацыяпсіхалагічнай сферы. А тут ключавым момантам зьяўляецца леташняе абраньне "на ура" таварыша Лукашэнкі ў якасьці прэзідэнта Беларусі. Спадзяваньні на яго ў значнай часткі насельніцтва адпавядалі колькасьці ды памеру Лукашэнкавых абяцаньняў, а таксама інтэнсіўнасьці дзейнасьці "шасьцёрак", якія распаўсюджвалі чуткі (галоўным чынам у чэргах і ў транспарце) пра "перавагі" менавіта гэтага прэтэндэнта.

Але, прайшоў год, і аказалася, што заводы не "запушчаны", а спыняюцца яшчэ больш; ніводзін карупцыянер з ліку 70, якія акружалі Кебіча, за краты не папаў, заробкі адносна цэнаў ня выраслі; карупцыя працягвае квітнець, злачыннасьць расьце і г.д. Затое ў газетах зьявіліся "белыя плямы"; былі зьбіты пратэставаўшыя дэпутаты (маючыя, дарэчы, дэпутацкую недатыкальнасьць); быў навязаны нікому не патрэбны рэферэндум; прэзідэнт са сваёй жонкай ня жыў.

У падсьвядомасьці выбаршчыкаў, галасаваўшых за Лукашэнку (такіх, нагадаю, было 50%), пачало фармавацца адчуваньне, што адбылося нешта ня тое, на што яны разьлічвалі. Гэтае адчуваньне з кожным месяцам станавілася ўсё больш упартым і афармленым. Адсюль здавалася, што ўжо цяпер грамадзяне Беларусі сьвядома пойдуць на выбары, каб, абраўшы прадстаўнікоў БНФ (супраць якіх весь час агітаваў Лукашэнка), адпомсьціць прэзідэнту за падманутыя надзеі.

"Але, каб так зрабіць,.. трэба спачатку самому сабе прызнацца, што мяне зноў абдурылі". І вось тут крыецца сутнасьць. Прызнацца ў гэтым большасьць людзей ня здольныя. Так пабудавана людзкая псіхіка, што звыклы чалавек у саіх памылках гатоў вінаваціць каго заўгодна, толькі не сябе.

Выкарыстаўшы гэта, ўладзе ўдалося сфармаваць галоўную думку: "На выбары ўвогуле ня трэба ісьці. Усе яны аднолькавыя, толькі б дарваціца да ўлады...".

Нізкая выбарчая актыўнасьць была формай пратэсту, але такой, якая зноў была выгадна рэжыму.

Чаму ж тады на выбары так актыўна ішлі пенсіянеры?

А яны, па падказцы камуністаў, ішлі змагацца за сваё таннае жытло, бясплатны праезд, разьмеркавальнікі, іншыя прывілеі ды ільготы. І іх цяжка вінаваціць, бо многія з іх, сумленна прапрацаваўшы ўсё жыцьцё, але на старасьць так нічога і не зарабілі. Многія з сучасных ветэранаў разумеюць, што тыя ж камуністы вялі іх ня той дарогай. Але што ім рабіць зараз? Калі наш пенсіянер згубіць тое, што мае, дык не вядома, ці здолее ён не галадаючы дажыць да сьмерці. Таму актыўнасьць прадстаўнікоў дадзенай сацыяльнай групы была формай змаганьня за сваё далейшае існаваньне.

Але, у той жа час, іх жа цяжка і не вінаваціць, бо на прывілеі ды ільготы старэйшага пакаленьня павінна працаваць моладзь і людзі сярэдняга ўзросту, для якіх, у сваю чаргу, нармальнае жыцьцё не было створана менавіта цяперашнімі пенсіянерамі.

Галасаваньне ж на карысьць камуністаў перспектыву выхаду з крызісу толькі аддаліла.

Алесь АСТРОЎСКІ.

## НАД ГАРВЫКАНКАМАМ НОВЫ ФЛАГШТОК

**Каля васьмі разоў (пасьля рэферэндуму) беларускія патрыёты ў Маладэчне здымалі з будынку гарвыканкаму лукашэнкаўскі "калгасна-мусульманскі" сьцяг і замянялі яго бел-чырвона-белым. Улады звольнілі вартаўніка, абрэзалі пажарную лесьвіцу, але нічога не дапамагала.**

Зараз прыдумалі новае выйсьце. Паднялі лукашэнкаўскае тварэньне на высачэзны флагшток каб "праклятыя нацыяналісты" не залезьлі, бо верталётаў жа ў іх няма. Верталётаў няма, але два гаечныя ключы знойдуцца, бо флагшток у сілу беларускай абыякавасьці мацуецца ўсяго на адной трубе.

Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ

## ПАЗІЦЫІ ПРЭЗІДЭНТАЎ НЕ СУПАЛІ

**На гэтым тыдні адбыўся даўгачаканы візіт у Беларусь прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. Планавалася, што сустрэча кіраўнікоў Украіны і Беларусі прывядзе да падпісаньня шэрагу важных пагадненьняў, у т.л. і мытнага па аналагу з беларуска-расейскай мытнай дамовай.**

Але нечакана для прэзідэнта Лукашэнкі сп.Кучма праявіў сябе як разважлівы палітычны дзеяч, заявіўшы, што гаварыць пра стварэньне мытнага саюзу нельга без падпісаньня дамовы аб свабодным гандлі, бо ў той жа Расеі існуе пералік тавараў, увоз якіх жорстка лімітаваны ці забаронены. Зьбянтэжаны Лукашэнка, як бы ў апраўданьне, спрабаваў растлумачыць журналістам, што падпісаньне дамовы аб вольным гандлі з Расеяй будзе другім этапам у справе стварэньня беларуска-расейскага мытнага саюзу.

Але спантанныя тлумачэньні беларускага прэзідэнта на фоне аргументаванай, узважлівай пазіцыі Леаніда Кучмы выглядалі вельмі блёклa. Яно і зразумела, разумныя людзі спачатку думаюць, а затым робяць ...

Віктар ЛЮДВІКОВІЧ

## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

СЯРГЕЙ ЁРШ

# ПАСЬЛЯВАЕННЫ СУПРАЦІЎ БАЛЬШАВІЦКІМ АКУПАНТАМ НА БЕЛАРУСІ

(Заканьчэньне. Пачатак у N23-25)

### АПОШНІЯ ГАДЫ ПАРТЫЗАНСКАГА ЗМАГАНЬНЯ

Доўгачаканая вайна Захаду з СССР усё не пачыналася. Партызаны несьлі адчувальныя страты. Ацалеўшыя ж гублялі і пераможную перспектыву барацьбы. Партызанская газета "Самастрэл" пісала ў 1949 г.: "Цяжка, немагчыма цяжка. Асабліва, калі навокал усё гарыць і ліецца кроў. Калі побач падае твой сябра ад кулі ворага. Цяжка, гэтак цяжка, што здаецца кожнае разуменьне страчаным, бо ты ня можаш ні жыць, ні рухацца спакойна і плыць. Зачым рабіць пераходы, зачым зьмяняць месца, зачым наогул вылазіць з нашых сховішчаў? Зачым? Ці ня ўсё роўна дзе і калі паміраць!..". Якіх жа намаганьняў каштавала ген.Вітушку й ягоным камаңдзірам падтрымоўваць у партызанаў баявы дух! "Чорны Кот" працягвае праводзіць актыўныя збройныя аперацыі, несучы ўсё новыя й новыя страты...

У 1950 г. "Чорны Кот" адзначыў свае пяцігоддзе. З гэтай нагоды быў зьдзейснены напад на ваенны аэрадром у Кёнігзбэрзе. Было пашкоджана 7 самалётаў і пад агнём партызанаў аэрадром знаходзіўся некалькі гадзінаў.

У гэтым жа годзе аддзелы ген. Вітушкі спрабавалі вызваліць у Вільні арыштаваных партызанаў, якіх транспартавалі часткі МВД. Бойка цягнулася 4 гадзіны й бальшавікі былі вымушаныя ўвесьці ў дзейнасьць танкі. МВД панесла вялікія страты, а партызаны мелі 1 забітага й 3 параненых.

У чэрвені 1950 г. "Чорны Кот" кантраляваў чыгунку Берасьце-Беласток, зьнішчыў пяць вайсковых цягнікоў са зброяй і войскам, а таксама некалькі мастоў.

8 верасьня 1951 г. "Чорны Кот" арганізаваў у Вільні антыбальшавіцкую дэманстрацыю. Эміграцыйны часопіс "Божым шляхам" пісаў: "... сёлета Віленшчына перажывала вельмі ўзмоцненую хвалю вывазаў у Сібір і асабліва жорсткае праследаваньне каталікоў беларусаў і летувісаў. Аднак увесь бальшавіцкі тэрор ня здолеў зламаць народнага руху супраціву. Калі ў Вільні 8-га верасьня бальшавікі склікалі мітынг, дык партызаны з радоў "Чорнага Ката" выкарысталі яго для супрацьбальшавіцкае дэманстрацыі. Кінуўшы некалькі петардаў, яны выклікалі замяшаньне, у часе якога ўзносіліся супрацьбальшавіцкія клічы і дамаганьні асноўных свабодаў, вольнасьці слова і згуртаваньняў. Паліцыя мітынг разагнала, але наступнага дня ў ваколіцы Вільні зьявіліся лятучкі ў беларускай, летувіскай і польскай мовах з заклікам гуртаваньня супраць камуністычных сілаў і да супрацькалгаснае акцыі".

Праўдападобна, гэта была адна з апошніх буйных акцый беларускіх партызанаў. Рух слабеў, нёс вялікія страты. Людзі стаміліся ад вайны, якая доўжылася цэлае дзесяцігоддзе. Дзяржбясьпека ў 1951-52гг. зьнішчыла некалькі апошніх буйных аддзелаў "Чорнага Ката". 14 чэрвеня 1951 г. гэбістамі быў ліквідаваны аддзел "Крэта", які дзейнічаў з 1945 г. Хацелася б сказаць колькі слоў пра аддзел Ігната Жыхарэвіча. Жыхарэвіч, настаўнік па адукацыі, падчас нямецкай акупацыі быў адным з кіраўнікоў СБМ у Заходняй Беларусі. Як жаўнер "Дальвіца" вярнуўся на Бацькаўшчыну, каб змагацца за волю й незалежнасьць, але быў арыштаваны НКГБ. Уцёкшы з-пад арышту, арганізоўвае партызанскі атрад і камандуе ім. Калі быў зьнішчаны атрад Жыхарэвіча, дакладна няведама. Сам Жыхарэвіч загінуў у барацьбе з чэкістамі, якія спрабавалі захапіць яго подступам у адной вясковай хаце.

Падпольле таксама несла цяжкія страты. Яшчэ ў 1946 г. у Польшчы МГБ правяла арышты сяброў БНП-БВА. Тады быў арыштаваны Мікалай Шкялёнак, якога бальшавікі прысудзілі да сьмерці на шыбеніцы.

Ня буду спыняцца на маладзёжным падпольлі 1946-47 гг., бо пра яго шмат напісана. Яно хоць і шукала сувязі з партызанамі, але ў сваёй дзейнасьці не скарыстоўвала ўзбройную барацьбу. Партызаны ж бачылі, што з такой слабай канспірацыяй рана ці позна моладзь трапіць у рукі МГБ й таму, у большасьці выпадкаў, ад кантактаў устрымліваліся.

МГБ ліквідавала й падпольную групу, якой кіраваў Валяньцін Крывенка, былы сябра СБМ. Адным з апошніх змагароў з бальшавізмам быў паэт і журналіст Мікалай Няверaў. Ён быў падчас нямецкае акупацыі ў беларускай нацыянальнай партызанцы. Ратуючыся ад насланых з Масквы энкавэдзістаў, выходзіць з лесу й уступае ў БКА. Пад Саветамі жыў спачатку пад фальшывым пашпартам, а пасьля хаваўся на вёсцы. Ён распаўсюджваў улёткі антысавецкага зьместу, а таксама свае патрыятычныя вершы. Выданы сваім сябрам Ул.Новікавым, ён быў асуджаны на сьмерць.

Апошнія партызанскія й падпольныя групы працягвалі барацьбу да сярэдзіны 1950-х гг.

### БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

Разьбітая на варожыя групоўкі, беларуская эміграцыя не магла аказаць дапамогу партызанам на Бацькаўшчыне. БНП раскалолася па палітычных і рэлігійных прычынах. Замежны Сэктар Партыі ўзначаліў у Нямеччыне маёр Дз.Касмовіч ("Каршун"). Але, як вынікае з успамінаў сябра ЦК БНП М.Зуя, Замежны Сэктар не валодаў сітуацыяй на Бацькаўшчыне й ня меў з "Чорным Катом" сталага кантакту. У Нямеччыне напрыканцы 1940-х гг. паўстала вэтэранская арганізацыя Беларускі Вызвольны Рух (БВР) на чале з палкоўнікам Л.Галубовічам (Зарэчным). Менавіта БВР накіраваў некалькі груп выведчыкаў на Беларусь з дапамогаю амэрыканскіх сьпецслужбаў. Усе яны выканалі заданьне й вярнуліся ў Нямеччыну. Толькі Міхалюк вырашыў застацца на Бацькаўшчыне. Ён аб'яднаў партызанскія групы на Кобрыншчыне ў 1951 г., але ў баі з аддзелам МВД загінуў.

Ініцыятыву ў БВР перахапіла Рада БНР на чале з М.Абрамчыкам, якая з 1951 г. пачынае закідваць сваіх выведчыкаў на Бацькаўшчыну. Пра групы Цімафейчыка, Касьцюка, пра Янку Філістовіча напісана шмат і таму спыняцца на іх ня буду.

Рада БНР да 1947 г. дзейнічала нелегальна й з дапамогаю падпольля БНП-БВА у Берліне й Польшчы падтрымлівала сувязь з ген. Вітушкам. Аднавіўшая сваю дзейнасьць БЦР на чале з Р.Астроўскім хацела перахапіць ініцыятыву ў канкурэнцыйнай Рады БНР, але й гэта, відавочна, не ўдалося. Адзін з партызанаў пісаў, што "насельніцтва ня можа даравацъ Астроўскаму стварэньня "абаронных вёсак", за што Саветы вельмі жорстка караюць беларускіх сялян".

Рада БНР яшчэ ў 1949 г. стварыла праекты ўзнагарод для беларускіх партызанаў, зацьверджаныя прэзідэнтам Абрамчыкам у 1951 г. Гэта: ордэны Пагоні й Зялезнага Рыцара, а таксама ордэн "Мэдаль Партызана". На пачатак 1951 г. было ўзнагароджана сем чалавек: 1) Генерал М.Вітушка - ордэнам Пагоні 3-й клясы й ордэнам Зялезнага Рыцара 3-й клясы;

2) Генерал У.Р. (Усевалад Родзька? - С.Ё.) - тымі ж узнагародамі;

3) Маёр Саха - ордэнам Зялезнага Рыцара 4-й клясы;

4) Маёр Іван Слуцкі - тым жа ордэнам;

5) Тры камандзіры асобных аддзелаў і адзін афіцэр сувязі (усе на Бацькаўшчыне) - ардэнамі Зялезнага Рыцара 4-й клясы.

Узнагароджвацъ ордэнам "Мэдаль Партызана" атрымаў права ген. Вітушка.

Але барацьба, тым часам, ужо губляла ранейшыя маштабы. Праўдападобна, ад 1952 г. арганізаваная партызанка "Чорнага Ката" была спыненая. У лясах засталіся малыя групкі партызанаў. Іншыя, як і ген. Вітушка, спрабавалі нелегальна жыць у гарадах і вёсках, легалізаваліся пад чужымі прозьвішчамі. Калі Вітушка быў арыштаваны, невядома. Праўдападобна, пасьля арышту ён быў вывезены ў Маскву, дзе й быў расстраляны... Магчыма, гэта здарылася ў 1956 або 1957 годах. Праўда, ёсьць весткі, што Вітушку й пазьней шукалі ў Казахстане й сярэднеазіяцкіх рэспубліках. Але гэта ні чым не пацьверджана.

### ЭПІЛОГ

Прыйдзе час, калі адкрыюцца архівы КДБ й мы атрымаем доступ да дакумантаў пасьляваеннага супраціву савецкай уладзе. А пакуль прыходзіцца абапірацца ў асноўным на ўспаміны, паведамленьні прэсы, асобныя публікацыі гісторыкаў... Канешне, не ўдалося ахапіць ва ўсёй паўнаце беларускі антысавецкі супраціў, але была створана агульная карціна зараджэньня, дзейнасьці й заняпаду руху. Быў вернуты з забыцьця шэраг прозьвішчаў беларускіх патрыётаў, якія адчайна, гераічна змагаліся з бальшавіцкімі акупантамі за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Думаю, што сёньня паўстае неабходнасьць рэабілітацыі й ушанаваньня памяці ўдзельнікаў Беларускага Збройнага Рэзыстансу. Многія з іх ваявалі ня толькі супраць бальшавізму, але й супраць фашызму. Розьніца паміж бальшавізмам і фашызмам невялікая, яны былі аднолькава ворагамі для нашага народу. Нездарма на партызанскіх лозунгах, якія вывешваліся на слупах і дрэвах, было напісана: "Далоў чырвоны фашызм! Няхай жыве вольная Радзіма!".

Украінскі "Рух" рэабілітаваў ОУН, УПА яшчэ ў 1990 годзе. Ці зможа Беларускі Народны Фронт рэабілітаваць пасьляваенны Беларускі антыбальшавіцкі супраціў? Тысячы герояў чакаюць гэтага.

**20-25 сакавіка 1995 г.**
**г.СЛОНІМ**

**Многія ўдзельнікі антыбальшавіцкага руху, якому прысьвечана было дасьледаваньне Сяргея Ярша, апынуўшыся ў эміграцыі, засталіся патрыётамі Бацькаўшчыны. Сьведчаньнем гэтага зьяўляецца атрыманы "Пагоняй" ліст з Аўстраліі.**

# ДА 51-х УГОДАК ДРУГОГА УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ

Выканаўчы Камітэт Федэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аустраліі, вітае Вас, дарагія суродзічы, з 51-ымі Угодкамі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, які адбыўся ў сталіцы Беларусі - Менску дня 27 чэрвеня 1944 года, пры ўдзеле 1039 дэлегатаў з этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі.

Ніколі ў гісторыі беларускаму народу ня прыйшлося перажыць столькі гора і ліхалецьця, як падчас II-ой Сусьветнай вайны. Беларусь апынулася ў пажары вайны паміж Савецкай Расеяй і Гітлераўскай Нямеччынай.

Ворагі беларускасьці забівалі лепшых сыноў нашага народу, палілі вёскі, ды хутары, вывозілі насельніцтва, ці то на ўсход, ці на захад. Папросту не было ратунку ў гэты ваенны хаатычны час.

Аднак знайшліся адважныя дзеячы нашага народу, якія, нават пад пагрозай сьмерці, арганізавалі пачатковы самаўрад у форме Беларускай Самапомачы, якая пазьней ператварылася ў Беларускую Цэнтральную Раду пад кіраўніцтвам праф. Р.Астроўскага.

Будучы добрым і мудрым палытыкам, Прэзідэнт Р.Астроўскі неадкладна арганізаваў Беларускую Краёвую Абарону (БКА), упарадкаваў Дзяржаўнае жыцьцё Беларусі, нягледзячы на жорсткую нямецкую акупацыю і часты супраціў.

Усе гэтыя палітычныя дасягненьні былі ўвенчаны скліканьнем 2-га Усебаларускага Кангрэсу, каб устанавіць у праўнай сіле Акт 25-га сакавіка 1918 году, які быў юрыдычна пахісчуты Берлінскай Канферэнцыяй у 1925 годзе.

Дарагія браты Беларусы на эміграцыі! Наша 51-а гадовая праца ня ёсьць змарнаванай. Мы зьяўляемся прыкладам нязломнай волі беларускага народу, каб быць гаспадаром на сваёй зямлі. Мы зьберагалі тут на чужыне чысьціню беларускай мовы, культуру, рэлігію і гэтым мы запалілі непагасную зорку сяроду нашага маладога пакаленьня, якое на роднай Бацькаўшчыне змагаецца сёньня, не шкадуючы сілы і жыцьця.

Будзем верыць, што ідэалы 1-га і 2-га Усебеларускіх Кангрэсаў будуць належна ацэненыя ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь. Бог з намі!

Жыве Беларусь!!!

**Паўлюк ГУЗ**
**за ўправу Федэральнай Рады.**
**Мельбурн.**



# НЕ БАЛІЦЬ ГАЛАВА

Пазаўчора вырашылася пытаньне з фінансаваньнем хакейнага "Нёмана". Хакеісты і трэнеры могуць спакойна рыхтавацца да першынства Ўсходне-Эўрапейскай лігі, гульні якой, безумоўна, выклічуць вялікую цікавасьць гледачоў. Варта было б належным чынам падрыхтавацца да старту турніра і лядовы палац спорту. Але пра гэта, відаць, мала каму баліць галава.

Р.В.

Фатаграфаваў Я.ВАНЮКЕВІЧ.



# КУБАК ЭЎРАПЕЙСКІХ ЧЭМПІЁНАЎ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГОРАДНІ

**У лютым 1996 года ў Горадні абдудзецца розыгрыш Кубка Эўрапейскіх чэмпіёнаў у групе па хакею на траве ў закрытых памяшканьнях.**

Афіцыйнае пацьверджаньне гэтай інфармацыі прыйшло ў беларускую федэрацыю хакея на траве. Суперніцамі нашага "Рытму" ў падгрупе "А" будуць хакеісткі галандзкага "Гронінгена", чэскага "Метэора" і валійскага "Свансэа". У падгрупе "Б" згуляюць каманды "Штадэ" (Францыя), "Грассхопперс" (Швайцарыя), "Данчанка" (Расея) і "Ларэнцоні" (Італія). У складзе апошняга клубу гуляюць дзьве гарадзенкі - Раманенка і Чарных. Пераможцы падгрупаў у наступным годзе будуць выступаць у групе "А" Эўрапейскага хакея.

А пакуль да 31 ліпеня летнія хакеісткі знаходзяцца ў адпачынку. Бліжэйшы афіцыйны старт адбудзецца ў верасьні, калі стартуе адкрытае першынство Украіны, у якім разам з украінкамі і беларускамі гуляюць малдаванкі ды дзяўчаты з Азербайджану.

Вітаўт РУДНІК

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**А ДЗІЦЯ ПРЫ ЧЫМ?**

Дастаўкай у бальніцу скончылася для трохмесячнага дзіцяці наведваньне яго маці былым мужам у вёсцы Отмінава Наваградзкага раёну. Зайшоўшы ў хату, ён учыніў скандал, у працэсе якога кінуў у жанчыну, якая трымала на руках сына, зьвязку ключоў. Яны трапілі ў галаву хлопчыку і паранілі яе.

**ВА ЎСІМ ВІНАВАТЫ МАК**

У вёсцы Тужаўляны Гарадзенскага раёну пры спробе зрэзаць макавыя галоўкі затрыманы жыхар Горадні, вадзіцель МП М. У яго канфіскавана 4 кілаграмы макавай саломкі, 2 шпрыцы і бутэлька з празрыстай вадкасьцю.

* * *

Прага нажывы падвяла таксама двух нідзе непрацуючых жыхароў Ваўкавыска, 1975 і 1971 гадоў нараджэньня. Яны праніклі на прысядзібны ўчастак пеньсіянера на хутары вёскі Палонка Сьвіслацкага раёну, дзе падчас крадзяжу расьлін масьліннага маку былі засьпеты гападаром і, пабіўшы яго, зьбеглі, але потым былі затрыманы.

* * *

Яшчэ горш скончылася ўсё для непрацуючага жыхара Горадні Г., які быў вымушаны зьвярнуцца ў траўмапункт з мноствам раненьняў шротам тулава і цемянной часткі галавы. Пацярпелы патлумачыў, што напярэдадні ён пайшоў з інфекцыйнай бальніцы, у якой знаходзіўся на лячэньні. І на адным з прысядзібных участкаў у вёсцы Лапенкі Гарадзенскага раёну, дзе ён зразаў мак, уладальнік участка стрэліў у яго з паляўнічай стрэльбы.

**НЕЧАКАНЫ ПАВАРОТ ПАДЗЕЙ**

Вяртаючыся з дыскатэкі каля дзьвюх гадзін ночы, жыхарка вёскі Шутавічы Е. наўрад ці адчувала небясьпеку. Але невядомая асоба з аўтамабіля стрэліла ў яе са зброі неўстаноўленага ўзору. З раненьнем шротам у вока пацярпелая зьмешчана ў бальніцу.

* * *

Лекаваецца таксама давядзецца падлетку з вёскі Хоцімічы і братам-блізьнятам з Кобрыня, якія прыехалі туды на канікулы. Бо ў выніку паджогу бляшанкі з порахам яны атрымалі апёкі твара і цела і дастаўлены ў бальніцу.

**"ОСТАЛИСЬ ОТ КОЗЛИКА РОЖКИ ДА НОЖКИ"**

Прыкладна на дзесяць гадзін пакінуў пеньсіянер з вёскі Дуброўля Лідзкага раёну ў садзе калгаса імя Мічурына на прывязі сваю цялушку. Калі вярнуўся - убачыў, што жывёла зарэзана, мяса скрадзена, на месцы засталіся ўнутранасьці, скура, галава. Зразумела, што ўчынілі гэта "ваўкі", але іншага кшталту.

**ВЕДАЙ З КІМ П'ЕШ.**

Праз паўтары гадзіны пасьля расьпіцьця з двума невядомымі сьпіртных напояў даволі зьвярнуцца ў міліцыю электрыку ГВА "Хімвалакно". Пасьля адыходу выпівакаў з кватэры, ён заўважыў зьнікненьне тэлевізара "Gold Star".

**ЗЛОДЗЕЙ НЕ ЧАРНОБЫЛЬ, АЛЕ...**

У чарговы раз пацярпела прыехаўшая ў Горадню жыхарка Маладэчна. Падчас паездкі ў маршрутным аўтобусе N 21, у яе з сумкі скрадзены кашалёк з 317 доларамі ЗША, 530 тысячамі рублёў і пасьведчаньнем пацярпелай ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**"НЕ ЎКРАДЗІ!"**

Дарэмна забыліся пра гэтую запаведзь двое непрацуючых жыхароў Горадні М. і П., якія з чужога садовага ўчастка ля вёскі Караліно Гарадзенскага раёну выкапалі два мяхі бульбы. Прага нажывы прывяла іх за краты.

**АДНАГО ПАДВЯЛА ЛЕСЬВІЦА, ДРУГОГА - "ЗЯЛЁНЫ ЗМЕЙ".**

Жыхар вёскі Міцькавічы Ваўкавыскага раёну падчас рамонту падвала ў двары свайго дома ўпаў з паламанай лесьвіцы, ударыўся галавой аб бетонную падлогу. Ад атрыманай у выніку гэтага чэрапна-мазгавой траўмы, ён памёр у бальніцы.

* * *

Падзеньне каштавала жыцьця рабочаму Лідзкага завода электравырабаў. Вяртаючыся ў нецьвярозым стане, ён упаў на лесьвічнай пляцоўцы інтэрната і атрымаў траўму галавы, ад якой праз восем дзён памёр.

А.ДУК

# ЛІПЕНЬ - СЯРЭДЗІНА ЛЕТА

**Ліпень - сярэдзіна лета. Цьвітуць ліпы, цудоўны, непаўторны водар разыходзіцца навокал. Стаўшы пад дрэвам, калісь можна было чуць гудзеньне тысяч пчол, якія зьбіралі нектар, кабператварыць яго ў духмяны бурштынавы мёд. Цяпер, асабліва ў горадзе, пчолак зусім не відаць, адно восы, чмялі ды нейкія насякомыя пералятаюць з кветкі на кветку. Назвы, падобныя да беларускай, месяц мае ва ўкраінскай, польскай, славацкай, балгарскай мовах.**

У сярэдзіне месяца сонца высока стаіць над гарызонтам, сярэднемесячная тэмпература паветра 17,8°С. Абсалютны максімум тэмпературы ў нашай краіне зафіксаваны ў Гомлі ў 1936 годзе - 38°С, абсалютны мінімум 1°С адзначаўся ў Любанскім раёне.

Сёлетні ліпень на Гарадзеншчыне сьпякотны, але прайшлі навальніцы, месцамі праліўныя дажджы. Крыху пахаладала.

У ліпені глебы награюцца найбольш моцна, у сярэднім да 22-23°С на паверхні. Працягласьць сьветлага часу сутак за месяц амаль 500 гадзін на поўдні і 526 на поўначы, сонечнага зьзяньня 272-294 гадзіны. Максімальная воблачнасьць бывае ўдзень, мінімум ноччу. Адносная вільготнасьць паветра 70-76%. Ліпень самы даждлівы месяц года, амаль палова дзён з дажджамі. Ападкаў 70-90 мм. Раз у 5 гадоў іх бывае больш за 100-130, раз у 10 гадоў - больш за 140-160 мм. Часам здараюцца і моцныя вятры, град.

Роскіт прыроды прыходзіцца на сярэдзіну лета, гэтай парой самыя частыя і працяглыя навальніцы. Але бывае і так, што многа дзён запар стаіць духата, суша, ні кроплі дажджу. Ноччу ж бачны водбліскі далёкіх маланак. Зарніцы, зараніцы, бліскавіцы, мілавіцы - так завуць у народзе начныя сполахі. Гэтае мялаўнічае відовішча часам працягваецца ўсю ноч. Бліскавіцы ахопліваюць палову неба, разьліваецца празрыстае чырванаватае сьвятло. У народзе такія ночы завуць "арабінавыя" ці "вераб'іныя". Гэта далёкія маланкі асьвятляюць атмасьферу і воблакі, грымотаў ня чутна з-за вялікай адлегласьці (ад 20 да 100 км).

Многа цяпла і вільгаці ў ліпені спрыяе буйному цьвіценьню канюшыны, гвазьдзікаў, чабару, ствятаяньніку, рамонкаў, васількоў, мяты палявой і інш. У стаячых вадаёмах актыўна размнажаюцца водарасьці і плывучыя расьліны. Працягваюць нераст уюны і верхаводкі. На шматлікіх кветках мітусяцца матылі, пчолы, чмялі, жукі, конікі. У лесе шмат птушынай моладзі, у канцы месяца птушкі замаўкаюць. Маладыя лісяняты і ваўкі выходзяць на паляваньне, падрастаюць зайчаняты другога памёту.

Месяц багаты на ягады: высьпяваюць суніцы, маліна, касьцяніцы, чырвоная бузіна, чарніцы, белыя, чырвоныя і чорныя парэчкі. У пачатку ліпеня цьвіце бульба, грэчка, лён, агародніна, у канцы месяца ідзе ўборка азімага жыта. У добрых гаспадароў-агароднікаў поўным ходам ідзе збор агуркоў, копка раньняй бульбы. Працягваецца збор лекавых расьлін.

Мужыку лета, што сьвятому рай.

Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае.

***

Хто ў ліпені на полі пацее, таго ўзімку і печка пагрэе.

***

Ліпень што спаліць агнямі, тое залье дажджамі.

***

Калі год сухі - купляй пчолку, калі мокры - кароўку.

7 ліпеня Івана (Яна) Купалы. Купальле - старажытнае сьвята, прымеркаванае да летняга сонцастаяньня, у гонар сонца, найвышэйшага росквіту ўсіх сіл прыроды. Назва "купальле" згадваецца ў летапісе 12 стагоддзя, старажытных беларускіх граматах.

На Купалу пачынай касьбу, прайдзі хоць першы пракос.

***

На Іванаву ноч зорна - будзе многа грыбоў.

***

Вялікая раса - ураджай агуркоў.

12 ліпеня ў праваслаўных дзень Пятра і Паўла - старажытнае земляробчае ствята ў беларусаў і іншых славянскіх народаў.

Пасьля Пятра лета хіліцца на восень.

***

"Салавей і зязюля пяюць да Пятра".

***

Прыйшоў Пятрок - адшчыпнуў лісток.

21-га Казанскай іконы Божай Маці. У народзе лічылася, што як "на Казанскую" пасьпелі чарніцы - пасьпела і жыта. Пачатак жніва.

А вось якія парады даюць старыя календары.

У гарачыню, каб ня так скора кісла малако, можна дасыпаць да яго крышачку соды.

***

Калі зязюля будзе кукаваць да самага Пятрова дня, то восень будзе добрая.

***

Завялыя кроп, пятрушку і інш., можна асьвяжыць у вадзе з воцатам.

***

На градах прыгінаюць пер'е, каб наліваліся цыбуліны.

***

Садовыя дрэвы добра родзяць, калі іх улетку падліваць гнаўніцай, або распушчаным у вадзе гноем.

Іван ДЗЯДОК.

# «АБУТНІК» – НА ЎЗДЫМЕ

Другі тур нацыянальнага чэмпіянату па футболе выявіў групу адрыву ад "пелетону". Дэбютант лігі - МВКЦ здабыў яшчэ адну буйную перамогу,"расклаўшы" у гасьцях "Бабруйск" (5:0). Хет-трыкам вызначыўся Максім Рамашчанка, прадоўжыўшы традыцыю брата Міраслава. Падаецца на тое, што Рамашчанкі ў перспектыве змогуць стаць ударным "тандэмам" у зборнай нашай краіны.

Чэмпіён - менскае "Дынама" задаволіўся больш сьціплай перавагай у Магілёве над "Тарпеда"(2:0).

Першы гол пасьля вяртаньня з "зямлі абяцанай" запісаў на свой рахунак Юрый Шуканаў. Трэці пачэсны радок у турнірнай табліцы пасьля вікторыі над прагрэсуючым "Маладэчна" займае лідзскі "Абутнік" (так высока ён яшчэ не ўзьбіраўся). Перамогу азмрочылі толькі хамскія паводзіны лідзкай "тарсіды" - у адрозьненьне ад гульцоў заўзятары былі не на вышыні. "Нёман" тур прапускаў з-за таго, што сапернік - "Днепр" быў задзейнічаны ў Кубку Інтэртота. Магілёўцы глядзіцца ў гэтым розыгрышы няблага, згуляўшы апошні матч з французскім "Каннам" - 2:2. З такім жа лікам завяршылі свой спарынг у Слоніме нёманцы. У гарадзенцаў вызначыліся навабранец Уладзімір Сідараў (вядомы па выступах за шчучынскі "Аўтадрот") і Алег Сысоеў, які пакуль застаецца ў клубе.

У.ХІЛЬМАНОВІЧ

# НАТУРАЛЬНЫ ПОСЬПЕХ НА ШТУЧНЫХ КАРТАХ

Зборная Беларусі ў турніры Кубка Дэвісу (другая ліга) адолела эстонцаў з лікам 5:0. Гонар краіны пасьпяхова абаранялі Аляксандр Швец (першая ракетка), Уладзімір Валчкоў і Максім Мірны. Перамогу абумовілі фактар сваёй пляцоўкі (адпаведна выбар тыпу пакрыцьця кортаў на карысьць сінтэтыкі) і больш разнастайны тэхнічны арсенал. Каманда замацавалася ў другім эшалоне і пры ўдалым лёсаваньні ў наступным сезоне мае шанцы трапіць у мацнейшы дывізіён. Сьпецыялісты адзначаюць відавочны прагрэс нашых тэнісістаў.

Х.КАМЕНСКІ

# САМБІСТКІ З ЛІДЫ

Закончыўся чарговы чэмпіянат Эўропы па самбо. У складзе зборнай Беларусі вызначыліся дзяўчаты з Ліды. У вагавай катэгорыі да 48 кг. трэцяй была Ірына Багатка, а ў катэгорыі да 60 кг. срэбрны мэдаль атрымала Марына Дзякевіч. Трэніруе таленавітых спартсмэнак Міхась Кароза.

Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.



"ПАГОНЯ"
Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры перадруку спасылка абавязкова.
Індэкс 63124.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 3169
Наклад 8936 паасобнікаў.
Нумар падпісаны да друку 20.07.95, у 16.00